# КРАЯЗНАЎЧАЯ ГАЗЕТА



№10 (14)
КАСТРЫЧНІК
2001 года

ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЎЦАЎ ГРОДЗЕНШЧЫНЫ



## ПРА СЛАВУТАГА ЗЕМЛЯКА

3-га верасня адбылася навукова-практычная канферэнцыя "Я.Ф.Карскі – першы беларускі акадэмік". Арганізатары — дзяржаўная ўстанова "Навуковая бібліятэка імя Я.Ф.Карскага" і абласная краязнаўчая асацыяцыя.

Прысутныя ўважліва праслухалі выступленні на тэму "Вяртанне на Радзіму: аб першых спробах жыццяпісу сям'і Я.Ф.Карскага" (дакладчык — заслужаны настаўнік Беларусі А. Цыхун), "Жыццёвыя шляхі і спадчына вучонага-славіста: пошукі і знаходкі" (канд. філ. навук Я.Янушкевіч), "Феномен акадэміка: Карскія чытанні ў ГрДУ імя Янкі Купалы" (доктар філ. навук, праф. М. Канюшкевіч), "Музей Я.Ф.Карскага Луцкаўлянскай СШ: праблемы і перспектывы" (краязнаўца Ул.Козыраў), "З пашанай да спадчыны славутага вучонага" (дырэктар музея Я.Ф.Карскага гімназіі № 30 г. Гродна Т.Еўтух), "Прэзентацыя кнігі "Беларусы" з серыі "Беларускі кнігазбор" (загадчыца аддзела краязнаўства абласной навуковай бібліятэкі імя Я.Ф.Карскага Л. Турмасава).

**Любоў Церахоўская**

***На здымку:*** **(злева направа) удзельнікі канферэнцыі Андрэй Майсяёнак, Марыя Канюшкевіч, Язэп Янушкевіч, Апанас Цыхун, Святлана Сяльвестрава, Вячаслаў Швед.**

## ГОСЦЬ З АЎСТРАЛІІ – ТАКСАМА "ЗА"…

***11 жніўня адбыўся ўстаноўчы сход Зэльвенскага рэгіянальнага краязнаўчага таварыства імя Ларысы Геніюш. Знамянальна тое, што падзея адбылася ў дзень 91-х угодкаў з дня нараджэння знакамітай паэткі. Ідэю аб стварэнні Зэльвенскага краязнаўчага асяродку ўхвалілі госці раённага цэнтра – грамадскія і культурныя дзеячы з Мінска, Гродна, Ваўкавыска, Ліды, жыхары Зэльвы, якія завіталі на ўрачыстае набажэнства з нагоды народзін Ларысы Антонаўны.***

У час арганізацыйнага паседжання сябра рады Гарадзенскай краязнаўчай асацыяцыі, сябра Управы Беларускага краязнаўчага таварыства імя Тодара Нарбута Алесь Госцеў паведаміў аб краязнаўчым руху ў вобласці. Падкрэсліў, што цяпер назіраецца сапраўдная згуртаванасць мясцовых краязнаўцаў. Паўсюдна ствараюцца краязнаўчыя суполкі. Ужо год, як дзейнічае Згуртаванне школьных краязнаўцаў (ЗШК) Гродзеншчыны…

Краязнаўцы Зэльвеншчыны Юры Качук і Таццяна Каравайчык распавялі аб вывучэнні гістарычнай спадчыны ў сваім раёне. Матэрыяльную падтрымку таварыству паабяцаў жыхар аўстралійскага горада Сіднэй, ураджэнец вёскі Горны, што паблізу Зэльвы, Міхась Лаўдар. Створанае рэгіянальнае таварыства прыняло рашэнне аб уваходзе ў Беларускае краязнаўчае таварыства імя Тодара Нарбута на правах аддзялення.

Старшынёй таварыства абраны Юры Качук. Намеснікам старшыні стала Таццяна Каравайчык. Сябрамі рады – Валянціна Навумчык, Лілія Панасік, Алена Таболіч. Госць з Аўстраліі Міхась Лаўдар аднагалосна абраны ганаровым сябрам рэгіянальнага краязнаўчага таварыства імя Ларысы Геніюш.

**Алесь Быліцкі**

## СТАРШЫНЯ ТАВАРЫСТВА

### Качук Юры Міхайлавіч



Нарадзіўся 17 лютага 1963 г. у Зэльве. Скончыў Беларускі політэхнічны інстытут. Працаваў старшым супрацоўнікам цэнтра навучання пажарнай бяспекі.

Арганізатар і ўдзельнік сямі краязнаўчых эспедыцый па родных мясцінах. Ажыццявіў некалькі праектаў, напрыклад, пра жыццё габрэяў Зэльвенскага раёна з даўніх часоў і да 2-й Сусветнай вайны, падарожжы школьнікаў па краі – Гудзевіцкі музей, Сынкаўская царква і г.д. Аўтар відэафільма "Замілаванне" (1998), прысвечанага 740-годдзю Зэльвы, шматлікіх малюнкаў, у тым ліку краязнаўчых.

Асаблівую ўвагу надае тапаніміцы. Упэўнены, што назва роднага гарадскога пасёлка мае напісанне і вымаўленне Зельва.

■ УЛАСНАЕ МЕРКАВАННЕ

# ТУТ АДЧУВАЕЦЦА ПОДЫХ ЭПОХІ...

***Само старажытнае аблічча будынка, у якім месціцца Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў Гродне, выклікае павагу. Дырэктар установы, заслужаны работнік культуры Карына Пятроўна Батракова менавіта з гэтага пачала размову.***

— Ва ўсіх энцыклапедычных даведніках пабудова пазначана як помнік архітэктуры канца 18-га стагоддзя. Спалучае рысы барока і класіцызму. У свой час уваходзіў у архітэктурны ансамбль Гарадніцы. Гэты комплекс быў узведзены ў 1765-1789 гадах па ініцыятыве гродзенскага старасты Антонія Тызенгауза. Тады з'явіўся культурна-прамысловы цэнтр на 1500 жыхароў. Усяго тады паўстала 85 будынкаў рознага прызначэння. У 60-я гады ХХ-га стагоддзя пагроза знішчэння вісела над архівам, але грамадскасць адстаяла гістарычную каштоўнасць, якую цяпер ахоўвае дзяржава.

Аднак плошчаў для работы, лічым, малавата. Зараз прававыя нормы закладзены ў Законе "Аб Нацыянальным архіўным фондзе і архівах у Рэспубліцы Беларусь". Мы таксама далучаліся да работы над яго праектам. Артыкулы строга рэгламентуюць нашу дзейнасць.

**— Архіў некалькі разоў мяняў назву за 60 гадоў свайго існавання. Гэта не перашкаджала рабоце калектыву? Магчыма, было выклікана зменамі ў кірунках дзейнасці?**

— Правільна было б сказаць, што назва ўдакладнялася. У 1940 годзе паўстаў філіял Цэнтральнага гістарычнага архіва БССР. У 1960 быў пераўтвораны ў Цэнтральны дзяржаўны гістарычны архіў у Гродне. З 1993 года называўся Беларускім дзяржаўным гістарычным архівам . З 1996 года нададзена сучасная назва. У краіне толькі два такія гістарычныя архівы – у Мінску і ў нас, у Гродне.

Сёння маем звыш 1200 фондаў, у якіх налічваецца 408 тысяч спраў. Напрыклад, толькі дакументаў фонда Гродзенскага губернскага праўлення каля 80 тысяч. Ёсць фонды па 40-60 тысяч адзінак захоўвання, а ёсць па 4-5 тысяч.

**— Ваш працоўны стаж у архіве складае 40 гадоў. За гэты час, відаць, перачыталі калі не ўсе дакументы, то значную частку?**

— Я прыйшла сюды ў 1959 годзе пасля заканчэння Маскоўскага дзяржаўнага гісторыка-архіўнага інстытута. Запіс у працоўнай кніжцы застаецца адзіным дагэтуль. Наша справа, думаю, дастойная, каб прысвяціць ёй жыццё. Што да азнаямлення з дакументамі, то шчыра прызнаюся: дзесяткі і дзесяткі тысяч перагледзела, аднак сваёй чаргі чакаюць яшчэ столькі ж. Мы не проста чытаем спадчыну, а працуем з лічбамі і фактамі. Частка матэрыялаў у розныя часы была скампанавана і ўваходзіла ў асобныя кнігі і зборнікі – "Дакументы і матэрыялы па гісторыі Беларусі (1900-1917г.)", "Сялянскі рух ў Беларусі", "Сялянскі рух у Беларусі пасля адмены прыгоннага права (1861-1862 г.)", "Рэвалюцыйны ўздым у Літве і Беларусі ў 1861-1862 г.", "Беларусь у эпоху капіталізма". Быў створаны даведнік "Цэнтральны дзяржаўны гістарычны архіў Беларускай ССР у гор. Гродне". Шмат матэрыялаў падрыхтавана намі для гісторыка-дакументальных хронік гарадоў і раёнаў Гродзеншчыны і Брэстчыны, у прыватнасці, "Памяць. Гродна".

Нашы супрацоўнікі пастаянна друкуюць уласныя артыкулы ў газетах і часопісах, выступаюць па радыё і тэлебачанні. А колькі матэрыялаў, сабраных у нашым архіве, змяшчаюць у друку вучоныя, даследчыкі, краязнаўцы! Няма, упэўнена, ніводнага кандыдата ці доктара гістарычных навук у Гродзенскім дзяржаўным універсітэце імя Янкі Купалы, які б не карыстаўся нашымі архіўнымі дадзенымі.

**— Пра што ўвогуле можна даведацца, вывучаючы фонды Нацыянальнага гістарычнага архіва?**

— Калі коратка, то пра жыццё былой Гродзенскай губерні, пачынаючы з 1801 па 1917 гады, а таксама Вілейскага, Дзісенскага, Лідскага, Ашмянскага паветаў Віленскай губерні Расійскай імперыі 19-га – пачатку 20-га стагоддзя. У асобных фондах захоўваюцца дакументы 16-га — 18-га стагоддзяў. Адлюстроўваюцца грамадска-палітычныя стасункі, гісторыя нацыянальна-вызваленчага, рэвалюцыйна-дэмакратычнага руху, хада вайны 1812 года. Ёсць звесткі пра колькасць і склад насельніцтва, адміністрацыйна-тэрытарыяльны падзел, прававы стан саслоўяў, жыццё і дзейнасць вядомых прадстаўнікоў грамадска-палітычнага руху, навукі, культуры, напрыклад, Тадэвуша Касцюшкі, Паўлюка Багрыма, Элізы Ажэшкі. Выклікаюць цікавасць падзеі 1863-1864 гадоў, асоба Кастуся Каліноўскага і яго паплечнікаў, сялянская аграрная рэформа 1861 года, дзейнасць палітычных партый і прафсаюзаў, эканамічны стан гаспадарак, народная адукацыя, ахова здароўя. Захоўваем радавыя фонды Быхаўцаў, Слізняў, дакументы органаў самакіравання, фінансава-падатковых устаноў, рэлігійных канфесій…

**— Каб усю гэтую гаспадарку дагледзець, прывясці да ладу трэба мець не проста супрацоўнікаў, але аднадумцаў, якія маюць веды і вопыт…**

— У нас свая спецыфіка. Мы навукова-даследчая ўстанова. У адрозненне ад абласных архіваў маем дакументальныя фонды, якія ўжо усталяваліся. Па-другое, фонды ў нас колькасна вельмі значныя. Вывучаем і ўпарадкуем тое, што ёсць. Ведаеце, для даследчыкаў каш-



тоўнасць уяўляе сама папера, якой карысталіся, напрыклад, у 16-м ці 18-м стагоддзі. Дух сваёй эпохі перадае нават почырк пісара ці сакратара, не кажучы пра чарніла, дзякуючы якасці якога мы сёння можам чытаць сведчанні мінуўшчыны. Усе дакументы, у тым ліку звычайная суправаджальная запіска, не маюць вызначаных тэрмінаў захоўвання. Праяўляем клопат, каб архіўныя звесткі служылі многім пакаленням.

Нашы работнікі маюць архіўную ці гістарычную вышэйшую адукацыю. Архіў вылучаецца пастаянствам і трываласцю штата. Высокакваліфікаваныя спецыялісты забяспечваюць работу аддзелаў забеспячэння захаванасці дакументаў і фондаў; уліку дакументаў, інфармацыйна-пошукавых сістэм і аўтаматызаваных архіўных тэхналогій; выкарыстання і публікацыі дакументаў; лабараторыі забеспячэння захаванасці і мікрафільмавання дакументаў; працу бібліятэкі, (гэта каля 11 тысяч кніг і брашур, пяць тысяч перыядычных выданняў); работу чытальнай залы, у якой працуе амаль 200 чалавек штогод.

Традыцыйна адказваем на ўсе пісьмовыя звароты з бліжняга і далёкага замежжа. Жыццё само падказвае тэмы, да якіх раптам узрастае інтарэс. 10-15 гадоў назад генеалогіяй, напрыклад, мала хто цікавіўся. Цяпер назіраецца падвышаная цяга да вывучэння ўласнага радаводу. Шмат запытаў прыходзіць з суседняй Польшчы, ЗША, Ізраіля – ад родных колішніх выхадцаў з Гродзеншчыны. Дзе толькі не апынуліся закінутыя лёсам жыхары нашага краю!..

На маю думку, цяпер назіраецца цікаўнасць да гісторыі наогул, яе канкрэтных фактаў. Паўсядзённай стала дабрачыннасць, і навукоўцы пачалі шукаць архіўныя дадзеныя аб развіцці гэтай справы ў мінулым. Святары цікавацца гісторыяй сваёй царквы. Архітэктары і рэстаўратары імкнуцца спазнаць аблічча Гродна 19-га стагоддзя, канала Агінскага часоў яго пабудовы.

Мы самі паведамляем кіраўніцтву прадпрыемстваў і ўстаноў пра звесткі, выяўленыя ў архіве. Так было напярэдадні юбілею тытунёвай фабрыкі…

**— Вы ўключаны ў склад аргкамітэта па арганізацыі і правядзенні святкавання 200-годдзя Гродзенскай губерні. Наколькі шырока пастаўлена папулярызацыя ведаў аб шляху, пройдзеным вобласцю за гэты перыяд?**

— Мы валодаем дастаткова поўнай архіўнай інфармацыяй. У гэтай рабоце падтрымаем цесны кантакт з адміністрацыяй Гродна, вучонымі і краязнаўцамі. Публікацыі часта змяшчаюцца ў абласной газеце "Гродзенская праўда". Асабліва актыўныя аўтары на гэту тэму – намеснік старшыні гарвыканкама Яўген Жабрун, прафесар Валерый Чарапіца, дацэнт Вячаслаў Швед. Друкуюць уласныя даследаванні супрацоўнікі нашага архіва Марыя Сачок, Таццяна Афанасьева, Ірына Рабухіна. Зараз рыхтуем адпаведную выстаўку. Пытанне разглядалі на паседжанні навуковага савета.

Вядома, кожны даследчык можа мець уласную ацэнку падзей мінулага. Галоўнае, каб гістарычныя факты заставаліся такімі, якімі былі на самой справе. Тут інтэрпрэтацыі няма месца.

**Гутарыў Антон Лабовіч**

■ ***КРАЯЗНАЎСТВА: ПРАБЛЕМЫ І НАБЫТКІ***

# ЗА ЛЯВОНА ГАВОРАЦЬ ЯГО КАНВЕРТЫ




Жыве Лявон Карповіч у вёсцы Лунна Мастоўскага раёна. Працуе настаўнікам матэматыкі ў базавай школе в. Пількі. Аднойчы на Украіне пабачыў канверты з выявамі знакамітых дзеячаў мінулага гэтай краіны. Па-добраму пазайздросціў, што украінцы так паважліва ставяцца да сваіх вядомых постацяў, папулярызуюць імёны сярод насельніцтва.

Першы ўласна зроблены пяць гадоў назад канверт меў выяву Пагоні. На адваротным баку быў змешчаны верш "Малітва за Беларускую мову". Наступныя канверты прысвячаліся Багушэвічу, Каліноўскаму, Касцюшку, Эміліі Плятэр. Абавязковы партрэт суправаджаўся тэкстам пра гэтых выбітных асобаў.

Зараз Лявон Карповіч плануе здзейсніць чарговую задуму: выпусціць канверты з серыі "Вялікія князі ВКЛ".

Добры прыклад варты пераймання, ці не так?

**Сцяпан Яраўчук**

# ГЛЯДЖУ ПЕСІМІСТЫЧНА…

Гістарычныя помнікі Смаргоншчыны знаходзяцца ў занядбанасці. Крэўскі замак і сядзіба Агінскага разбураюцца. А пра маёнтак Карловічаў можа ўспомніць толькі новае пакаленне вучоных свабоднай, незалежнай, дэмакратычнай і цывілізаванай дзяржавы.


Крэўскі замак сёння

Але гэта, на жаль, адбудзецца не хутка. У палітычнай і інтэлектуальнай эліты Беларусі сфарміраваўся менталітэт разбурэння, але не стварэння. Семінарамі, навукова-практычнымі канферэнцыямі не ўратаваць гістарычнай спадчыны. Неабходна нацыянальная праграма. Яе таксама няма. Шмат хто з талковых людзей ад'язджае за мяжу. Бедным навукоўцам і настаўнікам не пад сілу адрадзіць гістарычную спадчыну Беларусі.

Я гляджу на гэта песімістычна.

**Леанід Гаўрылкевіч. в. Вішнева Смаргонскага раёна.**

■ **НАМ ЗАСТАЛАСЯ СПАДЧЫНА**

# СЕМІНАРЫЯ Ў БАРУНАХ

*Неяк пачуў інфармацыю пра адкрыццё памятнай дошкі, прысвечанай выхаванцам Барунскай базільянскай семінарыі, польскамоўным літаратарам Ігнацію Ходзьку, Юльяну Корсаку і Антону Адынцу. На знаку таксама ўганаравана імя заснавальніка Беларускай гімназіі ў Барунах, вядомага палітычнага дзеяча Заходняй Беларусі Сымона Рак-Міхайлоўскага, які загінуў у сталінскіх лагерах.*

*Хацеў бы што-кольвечы дапоўніць да гістарычных звестак аб семінарыі ў Барунах, якая пакінула помны след у жыцці Рускай Праваслаўнай царквы. Размова ідзе пра існаванне ў Барунах царкоўна-настаўніцкай семінарыі пад патранатам Віленскага архіепіскапату, заснаванай у другой траціне 19-га стагоддзя, і якая існавала да 1915 г.*

З гісторыяй гэтай семінарыі звязана жыццё майго бацькі, нашай сям'і. Мой бацька, Нікіфар (Нічыпар) Фёдаравіч Майсяёнак, быў з сялян Дзісенскага ўезду (цяпер Глыбоцкі р-н Віцебскай вобл.). У 1910 г. скончыў Барунскую семінарыю. Яго работа ў якасці царкоўнага настаўніка пачалася ў в. Нарач Вілейскага ўезду. Там ён узяў шлюб са старшай дачкой мясцовага псальмоўніка — Лідзіяй Пугачэўскай. Там я з'явіўся на свет у 1912 г., як і мой брат-блізнец Аляксандр.

Прыкладна праз два гады працы ў Барунскай царкоўна-прыходскай школе бацьку прапанавалі пасаду эканома ў Барунскай царкоўна-настаўніцкай семінарыі, а таксама месца выкладчыка ў дзеючай пры семінарыі ўзорнай царкоўна-прыходскай школе. Мае першыя дзіцячыя ўспаміны звязаны з выкладчыцкай дзейнасцю бацькі: фунты, долі, чвэрці, сажэні, аршыны. Так было ў вучэбніку Малініна-Бурэніна. Бацька вельмі паспяхова працаваў на пасадзе эканома. Гэтаму паўплываў яго вялікі жыццёвы сялянскі вопыт.

У той час архіепіскапам Віленскім і Літоўскім быў Ціхан, які пазней, пасля кастрычніцкага перавароту, стаў Патрыярхам Маскоўскім і Усёй Русі і загінуў за праваслаўе ў бальшавіцкіх катоўнях. Архіепіскап Ціхан не раз быў у Барунах, інспектуючы семінарыю. Заўсёды яго сустракаў і праводзіў на станцыю Солы мой бацька.

Пасвечаны Нікіфар Фёдаравіч у дзяканы быў Мітрапалітам Кіеўскім Флавіянам, які перад пачаткам вайны (1914) быў госцем Літоўскай епархіі.

Аднойчы пры наведанні семінарыі яго Святейства Ціхан пажадаў агледзець гаспадарчыя пабудовы, пчалярню, дзе гаспадарыў бацька, у тым ліку пацікавіўся лядоўняй. Пасклізнуўся і ледзь не разбіўся. Яго паспеў падхапіць Нікіфар Фёдаравіч і выратаваў ад магчымага няшчасця. Пра гэта Ўладыка Ціхан часцяком узгадваў, бываючы ў Барунах. Памятаю хвалюючы эпізод, калі ён узяў мяне на калені і сказаў семінарыстам: "Трэба быць такім лагодным, як гэты малы".

Сярод выкладчыкаў семінарыі было шмат высокаадукаваных людзей. Настаўнікам музыкі і спеваў у семінарыі працаваў старэйшы кампазітар Беларусі Мікалай Мікалаевіч Чуркін (1869-1964). Гэты выдатны музыкант скончыў Тыфліскую і Бакінскую музычныя школы, але ў 1903 г.,



**На здымку: эканом Барунскай семінарыі, дыякан Нікіфар Майсяёнак з сям'ёй: сыны Аляксандр і Георгій (аўтар гэтага артыкула), матушка Лідзія. Баруны, 1914 г.**

незадаволены сваімі духоўнымі і творчымі справамі, пераехаў у Віленскі край. Нейкі час выкладаў і кіраваў хорам у Віленскім настаўніцкім інстытуце, захапіўся беларускім песенным фальклорам, дырыжыраваў царкоўнымі харамі. Яго музычныя творы былі ўпершыню апублікаваны ў 1910 г. у "Беларускім зборніку" Е.Раманава. Гэтая работа працягвалася да вайны. Наступ кайзераўскіх войскаў развялі шляхі М.М.Чуркіна і Барунскай семінарыі: ён пераехаў у настаўніцкую семінарыю Мсціслава. Увесь далейшы творчы шлях Чуркіна быў звязаны з Беларуссю. Ён аўтар вялікай колькасці музычных твораў, сярод якіх оперы "Вызваленне працы" і "Раскіданае гняздо".

Які ж далейшы лёс выкладчыкаў і семінарыстаў з Барун? Пасля Свянцянскага прарыву немцаў было загадана адыходзіць у бежанства ў Наўгародскую губерню. Туды і накіраваліся. Уладыка Ціхан з кіраўніцтвам епархіі размясціўся ў Дзісне, а наш барунскі абоз спыніўся на рацэ Шалоні Сольцаўскага ўезда. Тут, у Вілебіцах, семінарыя працягвала сваё духоўнае і навучальнае жыццё. Працаваў і мой бацька Нікіфар Фёдаравіч у якасці дзякана і выкладчыка. Прыязджаў архіяпіскап Ціхан, іншыя высокія асобы Царквы.

(Заканчэнне на 5-й стар.)

Там жа нас заспелі падзеі 1917 г. Бацьку прызначылі дзякам у жаночы манастыр у Дзяржавінскую Званку (імя настаўніка Пушкіна), якая знаходзілася побач са станцыяй Чудава Нікалаеўскай чыгункі. Памятаю вар'яцкія жорсткасці таго жахлівага часу, нечалавечыя здзекі "рэвалюцыянераў" над духоўнікамі. У выніку захварэла і хутка памерла мая маці – Лідзія Восіпаўна.

Памятаю цудоўных людзей з Барун, служачых семінарыі. Яны дзяліліся з намі апошнім, не далі памерці з голаду. Адзін з іх, повар Булей, неўзабаве памёр, так і застаўся ў наўгародскай зямлі. Не апускаючы рук, працаваў бацька, які заробкамі ў мясцовых сялян на пашы і сенакосе здабываў малако і хлеб. У разгар грамадзянскай вайны, ратуючыся ад холаду і голаду, у лютыя маразы 1918/1919 г., дзякуючы дапамозе родных, даехалі да чыгуначнай станцыі Балагое, і праз Полацк вярнуліся на родную Дзісеншчыну, у родны Віленскі край.

Наперадзе нас чакалі цяжкія выпрабаванні. Бацька хутка быў пасвечаны ў святары епіскапам Еліферыем у Вільні, пражыў доўгае жыццё святара ў Дзісенскім, а пазней у Глыбоцкім дэканаце. Ён быў будаўніком праваслаўных цэркваў у Андронах (1921) і Стэфанполі (1931). Памёр ў сане мітрафорнага пратаіерэя ў 1974 г., пасля больш чым 35-гадовага апошняга свайго служэння ў Галубіцкім прыходзе. Меў узрост 87 гадоў.

*Спадзяюся, што гэтая публікацыя прыцягне ўвагу царкоўных гісторыкаў, краязнаўцаў да вывучэння гісторыі Барунскай царкоўна-настаўніцкай семінарыі. Сярод выпускнікоў яе нямала выдатных і дастойных асобаў. Сляды гэтай семінарыі, яе летапіс, архівы трэба шукаць у Вілебіцах на Наўгародчыне. Там таксама, верагодна, захоўваюцца дакументы гэтай навучальнай установы.*

**Георгій Майсяёнак,**
**урач-пенсіянер.**

# ЯЗЭП ДРАЗДОВІЧ – МАСТАК АД БОГА

Язэпа Драздовіча на Гродзеншчыне добра ведаюць не толькі знаўцы яго творчасці і жыццёвага шляху. Ён пакінуў пасля сябе след у жывапісу, археалогіі, этнаграфіі, графіцы, скульптуры, краязнаўстве, фалькларыстыцы. Каб пабачыць часцінку яго спадчыны, многія гараджане і госці горада над Нёманам завіталі на выстаўку ў Авальную залу Новага замка ў Гродне. Экспанаты ласкава даслаў Нацыянальны музей гісторыі і культуры Беларусі.

Мастак выяўляе свой характар праз творы. Асоба Язэпа Драздовіча вылучаецца ўнікальнасцю. Суровы рэалізм мяжуе з летуценным сімвалізмам, глыбінныя жыццёвыя з'явы падаюцца праз суседства выяў мудрага і наіўнага. Ён быў шчырым, як і яго творчасць. Аб гэтым сведчаць графічны цыкл "Палессе" (1926), ілюстраваныя вокладкі для кнігі К. Буйло "Курганная кветка" (1914), твораў А.Грыневіча, аздабленне "Беларускага календара" за 1913 і 1915 гады.

Лёс распарадзіўся так, што ў 1926-1930-м гадах Язэп Нарцызавіч выкладаў маляванне ў Навагрудскай беларускай гімназіі. Тут мастак малюе пейзажы мясцовага замчышча, Налібоцкай пушчы. Штолета вандруе па Беларусі, у выніку чаго нараджаюцца графічныя серыі, альбомы, акварэлі беларускіх краявідаў, помнікаў дойлідства ў Вільні, Троках, Лідзе, Міры. Мастак рупліва папаўняў Віленскі Беларускі музей сваімі археалагічнымі знаходкамі, этнаграфічнымі занатоўкамі, творамі народнага мастацтва, уласнымі працамі. У гуртку юных мастакоў гімназіі пад яго кіраўніцтвам спасцігалі грамадзянскасць Дзяковіч, Петрыкевіч, Валенцюкевіч, Лецка, Шымбарэцкі. Гэтыя асобы заўсёды былі вартымі імя свайго настаўніка.

Захавалася нямала літаратурных пробаў пяра Язэпа Драздовіча . У прыватнасці, археалагічныя дзённікі, аб'яднаныя пад назвай "Дзісенская дагістарычная старына", рукапіс "Дзе знаходзяцца Дудуткі і Гародня, якія ўпамінаюцца ў "Слове аб палку Ігаравым", два арыгінальныя трактаты аб паходжанні і будове Сонечнай сістэмы, навукова-папулярнае выданне "Нябесныя бегі"…

Гледачы выстаўкі пабачылі толькі невялікую частку работ, створаных рукамі Я.Драздовіча. Ды і як перадаць у выставачнай зале атмасферу адкрытых ім помнікаў археалогіі, старажытных курганаў, гарадзішчаў і замкаў? Ёсць сведчанні, што многія работы мастака часткова папросту былі падараваны людзям у часы блуканняў Язэпа Драздовіча па роднай зямлі. А гэта ўнікальныя ўзоры разьбярства па дрэву, маляваныя дываны. Можа і добра, што гэтыя рэчы і цяпер можна сустрэць у вясковых хатах роднай мастаку Глыбоччыны Віцебскай вобласці.

Выстаўка ў Гродне – не першая сустрэча тутэйшых гледачоў з творчасцю Язэпа Драздовіча. Гродзенская грамадскасць урачыста адзначыла 100-годдзе з дня яго нараджэння ў канцы 1989 года. Тады таксама была наладжана выстаўка жывапісных і графічных работ са збораў Мастацкага музея Беларусі, арганізаваная творчым аб'яднаннем "Рунь". Сам жа Язэп Драздовіч у Гродне быў толькі праездам, калі накіроўваўся на работу ў Беласток.

**Уладзімір Кавалёў**



Мал. Язэпа Драздовіча

# КРАЯЗНАЎСТВА НА МАГІЛЁЎШЧЫНЕ

Яно на працягу апошніх дзесяці гадоў развівалася надзвычай дынамічна. Праведзена шмат канферэнцый на тэмы вывучэння гісторыі і культуры краю, выдадзена шэраг зборнікаў. Найбольш масавая краязнаўчая акцыя адбылася ў нашым рэгіёне ў 1999 годзе. На працягу траўня-кастрычніка Магілёўскае таварыства гуманітарных, культурных і навуковых ініцыятываў "Брама" разам з прадстаўнікамі гарадской арганізацыі ТБМ і рэдакцыі часопіса "Магілёўская даўніна" рэалізавалі краязнаўчы праект, скіраваны на захаванне і вывучэнне гісторыка-культурнай спадчыны Падняпроўя.

Праект складаўся з шэрагу вялікіх спецыялізаваных праграм – "Археалагічная спадчына Магілёўшчыны", "Гістарычная спадчына Магілёўшчыны і сучаснасць", "Фальклорная скарбніца Магілёўшчыны", "Літаратурнае краязнаўства Магілёўшчыны". На першым этапе ладзіліся моладзевыя археалагічныя, этнаграфічныя і фальклорныя летнікі. Улічана вялікае мноства помнікаў матэрыяльнай і духоўнай культуры. Праводзіліся інтэнсіўныя пошукі ў архівах і бібліятэках адпаведных дакументаў.

Заключны этап быў прысвечаны правядзенню навукова-практычных семінараў. Аналізаваліся праблемы захавання гісторыка-культурнай спадчыны Магілёўшчыны, гарадской і прыватнаўласніцкай геральдычнай традыцыі краю, шляхі папулярызацыі нашых вядомых землякоў і іх дзейнасці, прыцягнення да агульнай работы прадстаўнікоў этнічных меншасцяў, адзначалася канфесійная спецыфіка рэгіёна. Усяго ў рэалізацыі праекта ўдзельнічала 593 асобы.

Актывізацыя дзейнасці паспрыяла ініцыятывам. Увосень 1999 г. адбыўся сход краязнаўцаў вобласці, абрана каардынацыйная рада, якая правяла ўстаноўчы сход па ўтварэнні Магілёўскага краязнаўчага таварыства імя слыннага даследчыка Магілёўшчыны 20-га стагоддзя Еўдакіма Раманава. У сходзе ўдзельнічалі прадстаўнікі 19 раёнаў вобласці. Таварыства зарэгістравана ў абласным упраўленні юстыцыі.

Мы маем намер рэалізаваць некалькі навуковых і культурна-асветніцкіх праектаў. Напрыклад, правесці збор аўтэнтычных сведчанняў па найноўшай гісторыі рэгіёнаў на тэмы "Сталінскія рэпрэсіі вачыма сучаснікаў", "Нямецкая акупацыя і партызанскі рух вачыма насельніцтва вобласці". Многія сябры Таварыства маюць унікальныя дакументальныя сведчанні азначанага перыяду, успаміны ахвяраў рэпрэсій. Краязнаўца Леанід Лабаноўскі выдаў кнігу аб рэпрэсаваных Краснапольшчыны. Старшыня Бялыніцкай раённай краязнаўчай арганізацыі Міхась Карпечанка падрыхтаваў аналагічнае даследаванне па свайму раёну.

Не менш важным кірункам мусіць стаць фіксацыя аўтэнтычнага фальклору. Далёка не ўсё сабрана і сістэматызавана. Нашы сябры выявілі і занатавалі больш за 350 песень, прыпевак, прымавак, невядомых нават акадэмічным даследчыкам. Мы надаём вялікую ўвагу выданню навукова-папулярнай і краязнаўчай літаратуры, падручнікаў і дапаможнікаў па лакальнай гісторыі. Падрыхтаваны да друку падручнікі па гістарычнаму краязнаўству Бялыніцкага і Краснапольскага раёнаў. У Магілёве ў 16 школах выкладаецца курс "Магілёвазнаўства".

Неабходна мець краязнаўчую перыёдыку. У ідэале – гэта рэспубліканскі часопіс накшталт "Наш край" і абласныя краязнаўчыя газеты. Праз гэтыя выданні можна выхоўваць адданых патрыётаў Беларусі, людзей з высокім пачуццём нацыянальнай годнасці. Моладзь штодня будзе спрычыняцца да беларускай культурнай традыцыі.

**І.Марзалюк,**
**дацэнт кафедры археалогіі і спецыяльных гістарычных дысцыплін Магілёўскага дзяржуніверсітэта імя А. Куляшова, старшыня Магілёўскага краязнаўчага таварыства імя Еўдакіма Раманава.**

# КРАЙ ЗНАЦЬ – КРАЯЗНАЎЦАМ БЫЦЬ

Аддзел краязнаўства Гродзенскай абласной навуковай бібліятэкі імя Я.Ф.Карскага надрукаваў краязнаўчы календар на 2002 год. Такая практыка існуе пяты год.

Складальнік, навуковы супрацоўнік аддзела Алена Фібік, выкарыстоўвае дадзеныя фактаграфічнай картатэкі "Слынныя імёны Гарадзеншчыны", у якой налічваецца звыш адной тысячы асобаў – вядомых дзеячаў культуры, навукі, грамадскага жыцця. Гэтыя людзі зрабілі значны ўклад у развіццё рэгіёна.

Краязнаўчы календар на 2002 год паведамляе аб 60 прадстаўніках розных галін дзейнасці. Для зручнасці карыстання інфармацыя падаецца памесячна: указваецца дата нараджэння асобы, якая гадавіна з дня нараджэння, імя і прозвішча, кім працаваў.

Бібліяграфічны каляндар можна набыць у аддзеле краязнаўства ГАНБ імя Я.Ф.Карскага (вул. Замкавая, 20). Тэлефон для даведак 44-40-76.

**Любоў Цярахоўская**

# ЗДЫМКІ СТАРЫЯ, АЛЕ ГЛЯДЗЯЦЦА, ЯК НОВЫЯ

У слонімскай друкарні пабачыў свет буклет "Слонім на старых паштоўках", які падрыхтавала да друку дырэктар раённага краязнаўчага музея Ірына Шпыркова.

Выпуск старых паштовак Слоніма прытэрмінаваны да 750-годдзя першага нагадвання пра наш горад Услонім Іпацьеўскім летапісам. Гэты юбілей слонімцы адсвяткуюць у наступным годзе.

Буклет складаецца з 24 фотаздымкаў з выявамі Слоніма канца 19-га – пачатку 20-га стагоддзяў, выкананых тагачаснымі фатографамі Б.Ванштэйнам і Г.Браўнам. Іншыя раней не публікаваліся, напрыклад, рыбны кірмаш 1916 года на вуліцы Школьнай, пажар у горадзе 1918 года, рамізнік пачатку 20-га стагоддзя…

Старых здымкаў пра горад над Шчарай захавалася шмат. Усе яны маюць права на публікацыю. Будзем спадзявацца, што першы буклет стане добрым пачаткам.

**Сяргей Чыгрын**

■ АСОБЫ НАДНЁМАНСКАГА КРАЮ

# ПАТРЫЯРХ З БЕРАГОЎ ВОЗЕРА СВІЦЯЗЬ



**Уладзімір Урбановіч. Здымак 1984 г.**

У паселішчы Валеўка Навагрудскага раёна яго ведаў кожны. Калі 2-га лютага 1999 года ён памёр, усе прыйшлі развітацца з выдатным чалавекам, слынным земляком Уладзімірам Аляксандравічам Урбановічам. Над дамавінай гучалі словы ўдзячнасці за сумленнае жыццё, зробленае і пакінутае людзям.

Яго біяграфія ўтрымлівае скупыя звесткі пра надзвычай працалюбчую асобу. Нарадзіўся 2.08.1921 г. у в. Пудзіна Навагрудскага раёна ў сялянскай сям'і. Вучыўся ў няпоўнай Беларускай сярэдняй школе ў Лідзе. Там жа скончыў педвучылішча. Настаўнічаў у Лідскім, Навагрудскім, Новамышскім раёнах і завочна набываў веды ў Гродзенскім педагагічным інстытуце (1947-1952). Па заканчэнні выкладаў беларускую мову і літаратуру ў Райцаўскай СШ Карэліцкага раёна. З 1959 г. – у Валеўскай СШ. Быў завучам школы, выкладчыкам роднага слова. Яго імя сярод заснавальнікаў мясцовага народнага краязнаўчага музея.

Як літаратар вызначыўся кнігамі – "Па дарагіх мясцінах" (1964) і "Шляхамі паэтаў і герояў" (1970). Яны мелі падзагаловак "З вопыту краязнаўчай работы". Артыкулы змяшчаў у часопісах "Полымя" і "Народная асвета", "Настаўніцкай газеце", раёнцы "Новае жыццё", штотыднёвіку "Літаратура і мастацтва", "Сельскай газеце". Публікацыі тычыліся методыкі выкладання беларускай літаратуры, арганізацыі навучальнага працэсу, спалучэння школьных і пазашкольных заняткаў.

Актыўным краязнаўствам Уладзімір Урбановіч займаўся ўсё жыццё. Нездарма гэта падкрэслена ў Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі (т.5, стар. 364-365, Мн., 1987). Збіраў матэрыялы па гісторыі і культуры Навагрудчыны. Свае працы найчасцей змяшчаў у раённай газеце "Новае жыццё" – "Янка Купала і Навагрудчына", "У юных натуралістаў", "Вачыма літоўскага вучонага", "Дуб Даніла", "У родным доме", "Слаўны сын Навагрудчыны", "Аб родным краі" і інш.

80-м угодкам Уладзіміра Урбановіча надалі ўвагу Навагрудская раённая цэнтральная бібліятэчная сістэма, Валеўская сельская бібліятэка. Складальнік С.А.Гірэйка, рэдактары М.А.Валенцюкевіч, С.І.Івашкевіч падрыхтавалі рэкамендацыйна-бібліяграфічны спіс літаратуры. Сюды ўключаны матэрыялы аб жыцці і дзейнасці краязнаўцы, артыкулы з кніг, энцыклапедычных выданняў, часопісаў і газет. Храналагічны ахоп матэрыялу пазначаны межамі 1964-1982 г. Спіс адрасаваны ўсім, хто цікавіцца культурнай спадчынай У.А.Урбановіча.

**Т. Мішкіна,**
**адказная за выпуск рэкамендацыйна-бібліяграфічнага спісу літаратуры.**
**Навагрудскі раён.**

Бацькі Уладзіміра Урбановіча – Аляксандр Сцяпанавіч і Дар'я Рыгораўна жылі бедна. Таму Аляксандр Сцяпанавіч наважыўся паехаць пашукаць шчасця ў Амерыцы. Аднак і там не пашанцавала. Калі пачалася Першая сусветная вайна, вярнуўся дадому. А хата згарэла. Жылі нейкі час у мястэчку Бярозаўка. Неўзабаве пабудавалі свой дамок ва ўрочышчы Вязішча, каля в. Пудзіна. Тут і нарадзіўся Валодзя. Дзяцей у сям'і было двое.

Уладзімір з дзяцінства любіў чытаць кніжкі. Сваіх у яго не было. Тады ён вымальваў у маці грошы, каб купіць. Марыў вучыцца. Бацькі вучылі хлопца ў 3-й Беларускай няпоўнай сярэдняй школе ў Лідзе. Там жа скончыў педвучылішча. Атрымаў дыплом Гродзенскага педінстытута. Працаваў у школе.

Валеўскі школьны краязнаўчы музей вядомы не толькі ў нашых краях. Напачатку 60-х яму было прысвоена званне народнага. На ВДНГ атрымаў залаты медаль за выхаванне моладзі. Адным з арганізатараў музея быў Уладзімір Урбановіч. Стварыць літаратурны аддзел музея мог толькі чалавек, які глыбока і самааддана любіў сваю Бацькаўшчыну. Ён быў чалавекам энцыклапедычных ведаў. Падтрымліваў цесныя сувязі з вядомымі беларускімі пісьменнікамі — Максімам Танкам, Янкам Брылём, Уладзімірам Калеснікам, Сцяпанам Александровічам, Алесем Адамовічам і інш. Меў і ўласныя літаратурна-краязнаўчыя выданні, багатую бібліятэку.

Уладзімір Аляксандравіч жартоўна называў сябе завочнікам. І меў рацыю, бо вучыўся ва ўсіх вучэльнях на завочных аддзяленнях. Яго паслядоўнік – завуч Валеўскай СШ Міхаіл Фёдаравіч Петрыкевіч напачатку сумняваўся: "Што гэта за настаўнік-завочнік! З завочніка добрага настаўніка не будзе!". Аднак, пабачыўшы працу Уладзіміра Урбановіча, разгледзеўшы самабытны талент, памяняў сваю думку.

Яго, мясцовага краязнаўцу, ведаюць і памятаюць. Каб захаваць і ўшанаваць памяць аб гэтай таленавітай асобе, у Валеўскай школе збіраецца матэрыял.

**Святлана Гірэйка,**
**бібліятэкар Валеўскай сельскай бібліятэкі.**
**Навагрудскі раён.**

***"КГ". 80-годдзе з дня нараджэння Уладзіміра Урбановіча заслугоўвала, магчыма, арганізацыі спецыяльнай канферэнцыі. Спадзяемся, што надалей юбілейныя даты такіх асобаў будуць у полі зроку рэгіянальных краязнаўчых таварыстваў. У гэтым яны могуць спадзявацца на супрацоўніцтва, падтрымку і дапамогу.***

■ ШКОЛЬНАЕ КРАЯЗНАЎСТВА

# ЛЯЖАЦЬ ВАЛУНЫ ПРЫ ДАРОЗЕ...

На Слонімшчыне ёсць сем буйных валуноў – геалагічных помнікаў прыроды рэспубліканскага і мясцовага значэння. Гэта – расколаты камень Альбярцінскі, што знаходзіцца на ўсход ад Слоніма; вялікія камені Сянькоўшчынскі (каля аднайменнай вёскі); Смаўжыцкі побач з в. Смаўжы; Рудаўкаўскі; Кракоцкі; камялыга Кракоцкая, камень з ямкамі Кракоцкі.

Калі прааналізаваць карту геалагічных помнікаў прыроды Слонімскага раёна, то заўважна, што большасць валуноў знаходзіцца ля вёсак Кракотка, Рудаўка, Сялявічы. Гэтая тэрыторыя самая высокая частка Слонімскага ўзвышша, якое на захадзе злучаецца з аналагічным Ваўкавыскім. Тут добра захаваліся відавочныя канечна-марэнныя формы рэльефу.

У мінулым годзе сябры турысцка-краязнаўчага гуртка Сялявіцкай СШ правялі даследаванне буйных валуноў. Калі ехаць па шашы з в. Сялявічы на Кракотку, то на схіле злева, на ўскрайку лесу можна пабачыць буйны валун, парослы зверху мохам. Гэта так званая камлыга Кракоцкая, помнік прыроды мясцовага значэння. Слова “камлыга” у беларускай мове азначае “глыба”. Даўжыня валуна 3,5 м., шырыня 3,4 м., вышыня – 1,76 м. Па відавому складу гэты валун уяўляе сабой чырванаваты граніт. Увогуле, гранітныя валуны самыя распаўсюджаныя на Беларусі, а сам граніт лёгка пазнаецца па наяўнасці ў ім трох характэрных мінералаў – чырванаватага палявага шпату, белага кварцу і чорных крапляў слюды. Кавалачкі граніту ў камлыгі Кракоцкай лёгка адламваюцца. Гэта сведчыць пра паступовае разбурэнне. Вучоныя ацэньваюць узрост валуна ў 150-220 тысяч гадоў.

Пяройдзем шашу, якая цягнецца далей на Кракотку, і падымемся ўверх па лясной дарозе. Праз метраў 200 справа на бачыне лесу ўгледзім валун шэрага колеру – камень з ямкамі Кракоцкі, помнік рэспубліканскага значэння. Яго даўжыня каля 3,5 м., вышыня 1,5 м. Перанесены падчас аледзянення каля 200 тысяч гадоў таму. На паверхні валуна захаваліся пяць штучных адтулін, якія мелі, відавочна, культавае значэнне. Валуны гралі важную ролю ў жыцці насельнікаў старабеларускай зямлі. Ім кланяліся як ідалам, лічылі, што валуны – гэта людзі, ператвораныя злой сілай у камяні. Валунам прыпісывалі і лекавыя ўласцівасці.

Вялікі камень Рудаўкаўскі, які ляжаў ля грунтавой дарогі побач з в. Рудаўка, быў закапаны ў час дарожнабудаўнічых работ яшчэ ў 90-х гадах. А вялікаму каменю Кракоцкаму не пашанцавала з-за яго знаходжання на ўрадлівай зямлі. Гэтыя валуны існуюць, хаця цяпер і ўкрыты пад зямлёй. Іншыя наогул былі ўзарваны дынамітам.

Гэтыя факты гавораць, што для захавання і абследавання валуны трэба берагчы. Вучоныя лічаць, што знікненне іх хуткімі тэмпамі будзе назірацца і надалей. Магчыма, нашым унукам будзе цяжка ўявіць сабе, што некалі існавалі нямыя сведкі ледніковых эпох, якія дзесяткі тысяч гадоў назад рухаліся да нас са Скандынаўскага паўвострава ў выглядзе ледніка…



У сярэдзіне 90-х гадоў спробу стварыць калекцыю валуноў нашай мясцовасці ажыццявіла Сялявіцкая СШ. З дапамогай Слонімскага драбільна-сартыравальнага завода на тэрыторыю школы было завезена некалькі дзесяткаў разнастайных валуноў чырвонага і шэрага граніту, гнейсаў, габроідаў, кварцытаў, пясочніку. У спалучэнні з дэкаратыўнымі раслінамі, гэтая калекцыя пад адкрытым небам упрыгожвае сёння ландшафт школы, дазваляе праводзіць урокі і экскурсіі па геалогіі. Валуны служаць наглядным дапаможнікам пры вывучэнні прыроды роднага краю.

Калі стаіш каля гэтых каменных валуноў, адчуваеш непрыкметную сувязь прыроды і гісторыі, сучаснасці і старажытнасці, нібыта дакранаешся да магутнай цеплыні мінулых эпох.

**Сяргей Клёсаў,**
**настаўнік Сялявіцкай СШ, Слонімскі раён.**

**На здымку: Сяргей Клёсаў (на першым плане) з вучнямі-краязнаўцамі Сялявіцкай СШ каля Кракоцкай камлыгі.**

# ХОЧАМ СТВАРЫЦЬ МУЗЕЙ

Паважаная рэдакцыя!

У Сялявіцкай СШ ёсць гурток “Музейная справа”, работай якога я кірую. Мы хочам стварыць музей, прысвечаны краязнаўству і слаўтым землякам. Матэрыялаў трохі сабралі. Але не адмовімся ад дапамогі і добрай парады па афармленні экспазіцыі.

**Бажэна Маркушэўская, настаўніца.**
**в.Сялявічы, Слонімскі раён.**

***“КГ”**. Ініцыятыва заўсёды прыносіць плён. Пачатак музею пакладзены аздабленнем тэрыторыі школы. Знаходкі юных краязнаўцаў прасунуць справу надалей. Заклікаем краязнаўцаў Гродзеншчыны дапамагчы аматарам музейнай справы Сялявіцкай СШ. Магчыма, знойдуцца ў прыватных архівах матэрыялы пра асобаў, так ці інакш звязаных з тым краем. Даўно заўважана, што пад ляжачы камень вада не цячэ, ці не так?*

Бюлетэнь «Краязнаўчая газета»
Выдаецца на беларускай мове. На правах унутранай дакументацыі распаўсюджваецца бясплатна.
Адрас: 230023 г. Гродна, п/с 22.
Наклад 299 асобнікаў
Адказны за выпуск Сцяпан Ярашчук
Дызайн і вёрстка Адам Кір'яцкі
Бюлетэнь дабрачынна падрыхтаваны сябрамі краязнаўчых суполак і аб'яднанняў Гродна і надрукаваны пры падтрымцы Інстытута адкрытага грамадства (Парыж) і абласнога аб'яднання “Ратуша”